Магілеўскі
# ВЫБАР
№ 3 (41)
Люты
2015 г.
Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# Перспектывы вёскі

Сёння даволі цяжка ацаніць рэальны стан нашай сельскай гаспадаркі. Па-першае ,няма нармальна скалькуляванай бухгалтарскай базы дадзеных па саміх гаспадарках. Па-другое, часцяком адносіны паміж прадпрыемствамі вызначаюцца не эканамічнымі патрэбамі,а адміністрацыйным дыктатам. Вельмі складана сёння зразумець у агульнай масе даўгоў нашай вёскі, хто, што і каму павінен, ці сам ён браў, ці прымусілі “зверху”, ці трэба будзе аддаваць, ці, як заўсёды раней, спішуць. Але фактам ёсць адсутнасьць у 90-95% гаспадарак абаротных сродкаў для вядзення бягучай дзейнасці і выплаты заробкаў (па стане на восень 2014 г.). Восеньская сяўба ў першы раз за апошнія гады была праведзена амаль без унясення мінеральных угнаенняў (дарэчы, і тут, магчыма, пашанцавала, бо зімоўка складаная і прыйдзецца ўвесну багата перасяваць). Выключэнні, безумоўна, дзесьці ёсць, але яны толькі падцвярджаюць правіла. Грошай на рамонт тэхнікі няма і чакаць іх няма адкуль, бо і ў бюджэце іх пакуль, відаць, не густа.Пра ўгнаенні,сродкі абароны раслін пакуль ніхто нават нічога і не кажа.Відавочна, што сітуацыя досыць складаная, а вясна ўжо не за гарамі і трэба штосьці тэрмінова вырашаць.

Што ж прапануюць нашы чыноўнікі? У асноўным ідэі зводзяцца да звыклых: узмацніць, загадаць, адшукаць. Але ёсць і новае: акцыянаваць па працоўнаму ўнёску за апошнія 5 год, дазволіць выкуп акцый за ўласныя сродкі працаўнікоў. З бюджэту ў вёску сродкі накіроўваць па прынцыпе: палову - на плошчу сельгасугодзяў, другую - на выраблeную прадукцыю. У прынцыпе, усё гэта “новае”мае доўгую бараду. Але, на мой погляд, спазнілася гадоў так на дваццаць. Дурняў, гатовых гуляць у гульні з нашай сістэмай, сярод працоўнага люду ўжо не засталося. Калі ж гэтыя захады мяркуецца выкарыстаць для “сваіх”, то ўсё роўна застаецца багата пытанняў. Галоўнае, - як матываваць наёмных працаўнікоў да адказнай працы? Нават прыватызаваўшы праўдамі і няпраўдамі прадпрыемствы, нерэальна зрабіць іх эфектыўнымі без зменаў адносін да працы. А столькі гадоў працуючы “на таго парня”, імпэту на гэта не засталося амаль ні ў каго. Нічога не кажацца пра спісанне даўгоў, а яны ж непад’ёмныя. Разлічваць на сродкі з бюджэту вёсцы таксама не выпадае, хаця б іх хапіла на пакрыццё ранейшых пазык.

Таму надыйшоўшы Новы 2015 год абяцае быць вельмі вясёлым, бо, гледзячы на хваробы нашай сельскайгаспадаркі, і лекі, якімі яе плануюць лячыць, цяжка нават уявіць, дзе беларуская вёска апынецца. Досыць дакладна можна прагназаваць спад вытворчасці і змяншэнне колькасці працоўных месцаў. Пачнецца,напэўна, і ліквідацыя зусім лядашчых гаспадарак. Даходы вяскоўцаў будуць стабільна падаць. Ці надоўга? Прагназаваць складана. З аднога боку, міжнародная ізаляцыя нашага галоўнага рынку збыту, Расіі, павінна прывесці да падвышэння попыту на нашы харчы. З іншага боку, за апошнія гады рэзка ўзрасла інтэнсіўнасць нашай сельскай гаспадаркі і, адпаведна, яе выдаткі. У асноўным,



нажаль, гэта адбылося за кошт масавых закупак тэхнікі, тэхналогій і сыравіны за валюту ў заходніх краінах. Замежныя ноўхаў дазволілі дасягнуць падвышэння прадукцыйнасці і росту валавых паказчыкаў, але вымылі апошнюю валюту з краіны. І цяпер падтрымліваць гэты механізм няма за што (імпартныя запчасткі, матэрыялы, насенне і г.д.). Таму, пры непазбежным скарачэнні вытворчасці, уладам прыйдзецца выбіраць: ці нас пасадзіць на бульбу з капустай, ці, па-ранейшаму, нарошчваць экспарт на ўсход. А там з-за эканамічнага бязладдзя (двухразовая дэвальвацыя) цэны ў валюце знізіліся на 30-40%. Перанакіраваць продаж нашай сельгаспрадукцыі на іншыя рынкі нерэальна, бо яе якасць кульгае. Колькі б мы не нахвальвалі сваё, айчыннае, але гэта самападман. Нарабіць шмат без канкурэнцыі, з пад палкі, яшчэ можам, але каб добра - ніяк. Атрымліваецца, што пакуль Расія ў эканамічным крызісе і цэны на нафту нізкія, не варта чакаць і росту цэн на расійскім рынку на харчы. А, значыць, без правядзення патрэбных рэформаў, нашу вёску чакае вельмі складаны год.

*Андрэй ЮРКОЎ.*

# Аб дзейнасці беларускага Урада і свінстве

***Аналізуючы дзейнасць і меры беларускага Урада ў далейшым развіцці сельскай гаспадаркі, яго разнастайныя Пастановы і рашэнні, само сабой складваецца ўражанне, што там сабраліся людзі зацікаўленыя ў поўным развале гэтай галіны. Для прыкладу прапаную зрабіць невялікі экскурс у сферу развіцця свінагадоўлі ў нашай краіне згодна Пастановаў, рашэнняў, захадаў і т.д. чынавенства ад Урада за апошнія тры з паловай гады.***

25 лістапада 2014 года на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў РБ прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч выказаў незадаволенасць працай шэрагу рэгіёнаў па аднаўленні вытворчасці свініны. Нездавальняючай прызнана праца ў Віцебскай і Магілёўскай абласцях, дзе за студзень – кастрычнік бягучага года адбылося зніжэнне вытворчасці свініны да 55,2% і 79,6 %, адпаведна, у параўнанні з 2013 годам. У цэлым па краіне вытворчасць свініны ў жывой вазе за 10 месяцаў 2014 года склала 322,8 тыс. тон, або 83,5% у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага году.

Як заявіў прэм'ер-міністр, Урадам прыняты ўсе неабходныя захады, каб выйсці па аб'ёмах вытворчасці на ўзровень першага квартала 2012 года, што складзе 124,3 тыс. тон за першыя тры месяцы 2015 года.

Ну, а зараз – невялікі экскурс у не такі ўжо далёкі 2011 год. Менавіта ў гэтым годзе, 5 мая, была прынята Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №568 з вельмі гучнай назвай - *"Аб Рэспубліканскай праграме рэканструкцыі, тэхнічным перааснашчэнні і будаўніцтве комплексаў па вырошчванні свіней у 2011-2015 гадах".* Па выніках выканання гэтай Праграмы планавалася, што па ўзроўню спажывання свініны на аднаго чалавека наша краіна амаль выйдзе на ўзровень перадавых еўрапейскіх краін. У Беларусі на той момант спажывалася меней 30 кг., у той час як у Даніі гэты паказчык раўняўся 77 кг. свініны на чалавека, Іспаніі – 64, Германіі – 57 кг. Згодна Праграмы вытворчасць свініны ў сельскагаспадарчых арганізацыях краіны да 2015 г. павінна дасягнуць 630 тыс. тон. Агульная сума грашовых сродкаў, накіроўваемых на рэалізацыю дадзенай Рэспубліканскай праграмы складае 10059,4 млрд. рублёў. Адказнасць за каардынацыю дзеянняў па рэалізацыі Праграмы была ўскладзена на Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. Аб выніках рэалізацыі Праграмы за кожны квартал ў абласцях аблвыканкамы павінны інфармаваць Міністэрства сельскай гаспадаркі. А Міністэрства да 25 лютага кожнага года павінна інфармаваць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Здаецца, што яшчэ трэба… Ёсць грошы, ёсць Праграма, дзе ўсё падрабязна распісана - як, дзе, калі і каму рабіць… Бяры і рабі… Але прайшло тры гады і, як гэта ўжо нярэдка бывала, у беларускага Урада чамусці кардынальна памяняліся планы. І ўжо 9 чэрвеня 2014 года з'яўляецца Пастанова Савета міністраў №561, якой былі ўнесены карэктыроўкі ў планы па вытворчасці свініны да 2015 года, скараціўшы плануемыя аб'ёмы вытворчасці на 23%. Згодна гэтай Пастановы было прынята рашэнне па прыпыненню будаўніцтва шэрагу новых і рэканструкцыі існуючых свінагадоўчых комплексаў

Асноўную прычыну такога рашэння, якую беларускі Урад прыняў на ўзбраенне ў якасці свайго апраўдання – гэта падзенне сусветных цэнаў на свініну.

Не паспелі высахнуць чарнілы, якімі Мясніковіч зацвердзіў Пастанову №561, як роўна праз два месяцы з'яўляецца яшчэ адна чарговая Пастанова Савета міністраў №773 ад 8 жніўня 2014 года, дзе прадугледжваецца прыняццё дадатковых мер па аднаўленні вытворчасці свініны. Пастановай 561 ужо зацверджаны тэрміны па ўводу ў эксплуатацыю адзінаццаці новых свінагадоўчых комплексаў, а таксама шэрагу падлягаючых рэканструкцыі.

Гледзячы на падобныя шараханні, нявольна ўзнікаюць сумневы ў кампетэнтнасці чынавенства займаючых пасады ў беларускім Урадзе. Менавіта некампетэнтнасць беларускага чынавенства, нежаданне працаваць на карысць свайго народа і прывялі да таго, што кошты на свініну ў беларускіх магазінах і на рынках у 2-2,5 разы вышэй, чым кошты ў суседніх краінах.

Урады суседніх краін менш хвалюе каньюктура сусветнага рынку, іх больш за ўсё хвалюе ўзровень жыцця сваіх народаў, якія абралі іх на гэтыя пасады.

А можа быць за некампетэнтнасцю беларускага чынавенства хаваецца штосці іншае? І як адказ на гэтае пытанне ўзнікае чарговае. А куды ж падзеліся фінансавыя сродкі ў 10059,4 млрд. рублёў, якія выдаткоўваліся на рэалізацыю Рэспубліканскай праграмы 2011-2015 гг. па развіцці свінагадоўлі, і дзе эканамічны эфект ад іх "засваення"?

Мяркую, што ў адказ на падобныя пытанні, беларускае чынавенства паспрабуе спасылацца на разнастайныя аб'ектыўныя прычыны, у тым ліку і на АЧС (афрыканскую чуму свіней), якія па іх меркаваннях прывялі да правалу выканання Рэспубліканскай праграмы.

Але ж, спадарства, на разнастайныя Праграмы па прафілактыцы і недапушчэнню захворванняў ў жывелагадоўлі з дзяржаўнага бюджэту таксама штогод выдзяляюцца аграмадныя фінансавыя сродкі.

За разважаннямі аб праблемах у сельскай гаспадарцы, у эканомiцы краіны адназнана складваецца ўпэўненасць, што ў краіне даўно назрэла неабходнасць у чарговай, апошняй Пастанове існуючага Савета міністраў – аб сваёй адстаўцы ў поўным складзе. Падобны крок у сваю чаргу паслужыць прыкладам і для іншых.

**Рыгор КАСТУСЁЎ,**
*наместнік старшыні Партыі "БНФ".*

# Беларуская дыяспара ў свеце

У летні час чалавек заўсёды робіць разнастайныя вандроўкі. У невялічкім гарадку асабліва гэта бачна па шамлікіх сустрэчах “былых аднакласнікаў”. Людзі збіраюцца ў сваёй школе, запрашаюць па магчымасці сваіх былых настаўнікаў і амаль да самага позняга часу ўспамінаюць сваё юнацтва. Збіраюцца былыя навучэнцы школы з разнастайных куткоў Беларусі, блізкага і нават далёкага замежжа. На такіх сустрэчах заўсёды у суразмоўцаў выклікае цікавасць “як склаўся лёс былога сябра?” і тым больш “чаму ён трапіў за мяжу і як там уладкаваўся?”

Дык як жа жыве беларуская дыяспара сёння?

Слова "дыяспара" ўзятае з грэчаскай мовы і абазначае частку народа, якая жыве па-за межамі сваёй айчыны. Беларуская дыяспара жыве амаль ва ўсім свеце. У некаторых краінах вялікімі грамадамі, у іншых - амаль адзінкамі. Вялікая колькасць беларусаў у сучасны момант пражывае ў наступных краінах свету: ЗША, Канадзе, некаторых краінах Паўднёвай Амерыкі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Галандыі, Іспаніі, Італіі, Швейцарыі, Нямеччыне, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, Балгарыі, Літве, Латвіі, Эстоніі, у краінах Скандынавіі, Расеі, Украіне і шэрагу іншых краін былога СССР. Усяго за межамі Беларусі сёння жыве больш за тры мільёны беларусаў і іх нашчадкаў.

У шаснаццаці з гэтых краін беларуская дыяспара мае свае арганізацыі і ўстановы. У чатырнаццаці з іх жывуць сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтых краінах праводзяць сваю дзейнасць дзясяткі розных арганізацый і ўстаноў. Сярод іх ёсць грамадскія, палітычныя, культурна-асветныя, навуковыя, выдавецкія, камунікацыйныя, арганізацыі моладзі і студэнтаў, розныя фонды і фундацыі, рэлігійныя ўстановы розных веравызнанняў і юрысдыкцыяў, дабрачынныя ўстановы ды дзясяткі, калі не сотні, прадпрыемстваў, уласнікамі альбо кіраўнікамі якіх з’яўляюцца прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Інтэлектуальны капітал выхадцаў з Беларусі на сучасны момант вельмі значны. Навукова-



культурнымі цэнтрамі эміграцыі сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 г.), такі ж інстытут у Канадзе (1967), Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане (1971), Інстытут беларусаведання ў Ляймене (Германія). Многія замежныя універсітэты маюць беларускія аддзяленні, факультэты, кафедры беларускай мовы і літаратуры. Душпастарскую місію на эміграцыі выконваюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў канстанцінопалькай юрысдыкцыі і Беларуская каталіцкая місія.

Найбольш папулярным перыядычным выданнем беларусаў у замежжы з’яўляецца газета “Беларус”. Яе першы нумар выйшаў 20 верасня 1950 года ў Нью-Йрку. Выданне працуе ў цесным кантакце з грамадскім аб’яднаннем “Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне” (БАЗА) і зрабілася фактычна трыбунай не толькі для беларусаў Паўночнай Амерыкі, а ўвогуле беларусаў замежжа. Газета асвятляе навіны з жыцця беларускай дыяспары, змяшчае паведамленні і аналізы падзей у Беларусі і ў свеце, нарысы беларускай гісторыі, гісторыі беларускай эміграцыі, творы беларускіх пісьменнікаў, успаміны, некралогі, а таксама аб’явы і абвесткі з бягучай дзейнасці БАЗА ды іншых беларускіх арганізацый.

Газета зрабілася летапісам паваеннай эмігранцкай дзейнасці і сведкам прыходу новага пакалення беларусаў Амерыкі. Некралогі ў газеце – своеасаблівы (хоць і сумны) даведнік “Хто быў хто” ў беларускай эміграцыі, і каштоўная крыніца для будучых гісторыкаў.

Рэдактарамі газеты ў розныя часы былі такія вядомыя фігуры грамадскага і культурнага жыцця беларусаў, як Леанід Галяк, Лявон Савёнак, Міхась Міцкевіч, Наталля Арсеннева, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Зора Кіпель. З газетай супрацоўнічалі, бадай, усе беларускія літаратары і культурніцкія дзеячы на выгнанні ў другой палове XX стагоддзя. Вялікую дапамогу ў выданні газеты ў канцы 1990-х аказалі Лявон Юрэвіч і Зміцер Саўка. З 2002 года, дзякуючы працы рэдактара М. Клакоцкага, таксама пачалі выдаваць календары і літаратурны альманах “Беларус”. Будучыня газеты залежыць ад новага пакалення беларусаў і здольнасці пераняць традыцыю ахвярнай працы ўсіх папярэдніх рэдактараў “Беларуса”.

Пачынаючы з 1990 г. дзейнічае згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”. У ліпені 2013 г. ў Мінску прайшоў чарговы шосты па ліку з’езд гэтай арганізацыі.

Навукоўцы аб’ядналіся ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, створанай ў маі 1991 года.

Увесь свет ведае беларуса па паходжанні, буйнага спецыяліста ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта. Значным ўклад у развіццё беларускай навукі і культуры зрабілі навукоўцы Уладзімір Сядура (Глыбінны), Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Павел Урбан, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, айцец Аляксандр Надсан, знакаміты тэнар Міхась Забейда-Суміцкі, кампазітар Мікола Равенскі, паэты Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей (сапраўднае Альфрэд Радзюк). У Польшчы на карысць беларускай і польскай культуры шмат зрабілі пісьменнік Сакрат Яновіч, мастак Лёнік Тарасевіч, гісторык Юрый Туронак.

Гэта магутны чалавечы і арганізацыйны рэсурс. Часткі яго розняцца сваёю важнасцю, сваімі поглядамі, даўжынёю свайго існавання, аднак лучыць іх адно - жаданне бачыць Беларусь незалежнай і свабоднай дзяржавай.



*Алесь ГРУДЗІНА, гісторык, краязнаўца*

# ХАЛАЙДА

*Халайда (местн.) – рассеянный человек с непродуманными действиями, псевдостратег.*

Мстиславль, названный в честь последнего князя Киевской Руси Мстислава Великого, не то окраина Могилевской области, не то въездные ворота в Беларусь со стороны бывшего белорусского города Смоленска. Все-таки, скорее, окраина – неухоженные улицы с аляповатыми заборами, мрачное здание так и не отреставрированного костёла кармелитов с его уникальными фресками (середина XVIII в.) в стиле барокко, из которых выделяются «Взятие Мстиславля московскими войсками в 1654 г.» и «Избиение ксёндзов». Да и много иных признаков запустения и провала региональной политики на фоне процветающей Беларуси. А ведь еще в 1634 году за верность король Речи Посполитой и Великого Княжества Литовского Владислав IV пожаловал городу Магдебургское право, а также герб. Для увеличения доходов магистрату было позволено построить лавки, хлебные амбары, мясные ряды, городские бани, воскобойни. Имевшие дома на городской земле евреи в правах и повинностях были приравнены к горожанам. Видимо не зря Мстиславль называли «Маленьким Вильнюсом» - великое прошлое и достаток горожан позволяли быть ему в ряду европейских столиц.

Увы, те времена ушли в небытие: сегодня молодежь не особо жалует свою малую родину - если естественная убыль населения за 9 месяцев 2014 года составила 56 человек, то миграционная гораздо серьезней – 135. Ежегодно население района уменьшается на 1%, в 2014 г. практически с карты района исчез средний по размерам агрогородок. Согласитесь, когда из экономики района «изымается» по субъективным причинам каждый 50-й работник (и это только за 1 год!) – это симптом явного неблагополучия.

**Всего в Мстиславском районе 211 субъектов хозяйствования, 6 промышленных предприятий, 5 строительных организаций, 11 сельскохозяйственных организаций, 45 субъектов малого бизнеса и 1 фермерское хозяйство (!?). Занято в экономике 7650 работающих. Из 211 организаций 92 являются государственными, но как раз они формируют 82% доходов консолидированного бюджета. Основные налогоплательщики района: «Домочай», РайПО, «Водстрой», Жилкомхоз – они дают 44% от всех поступлений в бюджет. В республиканский бюджет район отчисляет более 20 млрд. рублей. Негосударственный сектор формирует только 5% доходов консолидированного бюджета.**

Казалось бы, налицо более эффективная работа государственных организаций. Увы, в 2015 г. из планируемых бюджетных доходов в 311,7 млрд. рублей 220,3 млрд. составят безвозмездные поступления. Согласитесь, необходимость дотирования района на 70% должна вызывать у ответственных товарищей легкое недоумение, а местное руководство стимулировать на развитие экономики. Тем более, что из прогнозных показателей социально-экономического развития района выполнены только два – энергосбережение (ну, это по всей стране так) и выручка от реализации на 1 работающего. Наполовину в районе снизилась рентабельность реализации. Также наполовину сократились инвестиции в приобретение новой техники и оборудования,строительно-монтажные работы выполнены на 82%. Экспорт упал в 5 раз, импорт – в 200. Не потому ли по уровню зарплаты район находится в группе самых бедных – ниже (или хуже?) только еще в 5 районах Беларуси? Впрочем, в районе нет организаций, где зарплата ниже 200 долларов США (причина для гордости?!) – как раз основная масса работников получают зарплату выше, но и не дотягивают до 250. За октябрь прошлого года средняя зарплата по району составила 3009 тыс. руб. – согласитесь, на такие доходы можно только выживать. В тоже время, фонд заработной платы в денежной выручке составляет 25,8% - определенные резервы для повышения доходов населения имеются.

**Мстиславский район является аграрным. К чести местных тружеников села, в 2014 г. получен хороший урожай зерна - вал составил 120,6 тыс. тонн, урожайность – 42,6 ц/га. СПК «Октябрь» намолотил по 67,1 ц с 1 га. – третье место в области. Заслуживает уважения трепетное отношение сельхозников к отечественной технике – на уборке зерновых культур первые 5 мест в районе заняли экипажи на белорусских комбайнах марок КЗС-1218 и КЗС-10. Более чем по 5 000 тонн зерна переработали на отечественных зерносушильно-очистительных комплексах КЗСК-30.**

На этих показателях «хорошее» в аграрном секторе экономики района и заканчивается. Возьмем уровень развития животноводства в районе: по производству молока район занимает 96 место в республике, мяса – 56. При этом, снижение производства молока допущено на 3,4%, удой на корову уменьшился на 135 кг – снизившиеся объемы реализации молока не позволяют аграрникам района вовремя выплачивать зарплату. Так что призыв «удвоить» производство молока при разработке программы модернизации молочно-товарных ферм закономерно со временем превратился в скромное «увеличить» при необозначенных параметрах (в 2014 году по сравнению с предыдущим годом производство валового регионального продукта упало на 3%). Впрочем, на 2015 год темп роста аграрного сектора экономики района должен составить 1%. Но, опять же, упор на ударный труд растениеводов - зерна нужно вырастить 150 тыс. тонн или на 25% выше уровня 2014 года.

Что мешает развиваться молочному скотоводству в районе? Возьмем для примера молочно-

товарный комплекс СПК «Советская Белоруссия», в модернизацию которого вложены миллиарды рублей инвестиций. Сегодня он дает прибавку в молоке только 12% к уровню предыдущего года - с такими показателями финансовое положение не исправишь, с кредитами не рассчитаешься. Да и не факт, что данный «мизер» является результатом модернизации производства.

В районе явно завалена работа с воспроизводством стада. Без квалифицированного подхода в этом вопросе нарастить производство молока невозможно. Так что укомплектование комплексов высокопродуктивным скотом в 2015 г. будет проблемой №1 для всех хозяйств района, которые ввели в эксплуатацию новые фермы. Актуальным уже для района является создание специализированных ремонтных бригад по обслуживанию доильных залов в сельхозорганизациях.

**Производство скота в 2014 г. в районе уменьшилось на 9,4%, хотя среднесуточные привесы крупного рогатого скота (80-е место в стране) и возросли на 10 грамм. Среднесуточные привесы свиней на откорме (60-е место) снизились за 9 месяцев 2014 года на 6 грамм. Всего реализация мяса в районе «упала» на 10%. Да и откуда будут эти показатели расти, если самые мощные в районе производители мяса СПК «Мазоловский» и КУСП СГЦ «Вихра» снизили поголовье свиней на 8 и 11% соответственно, а валовый прирост их живой массы на 28 и 22%.**

Сюрпризы в экономике района на каждом шагу. Одной из успешных организаций в районе считается местный льнозавод. Однако, если внимательнее присмотреться к результатам его производственной деятельности, иллюзия успешности развеется – наряду с денежной выручкой в 10,1 млрд. руб. льнозаводом получено субсидий на сумму в 3,3 млрд. руб. Даже в этом случае переработка знаменитого когда-то мстиславльского льна убыточна – рентабельность «-1,3%». Более того, нерациональная внешнеторговая политика льнозавода привела к превышению сроков проведения внешнеторговых операций, за что и был наказан материально.

Второй пример-сюрприз: ОАО «ПМК-94 «Водстрой» выполнило работ на 1,2 млрд. рублей, но денег в районе нет и пришлось беспокоить областной бюджет для спасения и строительной организации, и района в целом.

А как в районе сражаются с коррупцией? Мстиславльский прокурор Н.Розанцев больше занимается разъяснением сути коррупционных преступлений, чем борется с явлением. Во всяком случае, ни одного громкого процесса за последние годы местными правоохранительными органами инициировано не было. Думаю, что по мере нарастания экономических проблем в районе можно ожидать нескольких показательных процессов, особенно против руководителей, которые «отработали» на должностях 5-7 лет.

А что проблемы буду нарастать, говорят следующие факты. Мстиславльский район не включили в состав территорий с неблагоприятными условиями для ведения сельскохозяйственного производства и рассчитывать на преференции от государства мстиславчане не могут. Не вошел Мстиславль и в программу по развитию юго-восточных районов Могилевщины, хотя и граничит с ними. Не проявляет необходимой активности в наращивании инвестиций в район и местное начальство. Руководство района, уже 6 лет возглавляемое В.Витюновым, видит перспективу в производстве конкурентоспособной продукции и, как раз, в привлечении инвестиций для модернизации производства и обновления основных фондов. А еще председатель райисполкома связывает возможность социального подъема района с проведением в Мстиславле «Дожинок» в 2016 году. Правда, для этого в текущем году необходимо собрать не менее 150 тыс. тонн зерна, что выглядит не менее фантастично, чем высокая зарплата у местных работников.

Также г-н Витюнов озабочен реставрацией памятников архитектуры города и района, на что потребуется не менее триллиона рублей. Подскажем, где взять деньги – на содержание ЖКХ района из бюджета будет в 2015 году израсходовано 54 млрд. рублей – 17% от всей расходной части районного бюджета. Не слишком ли дорогая игрушка для местной власти или просто антикоррупционный комитет еще с коммунальниками не разбирался? Закономерен вопрос-предложение – чем в городе занимаются 5 строительных организаций? Может, программа по жилью перевыполняется или бюджет заливается валютой от оказанных за границей строительных услуг? Не менее впечатляет цифра в 60 первичных организаций БРСМ с наличием в них 1630 прогрессивных членов «молодежки» - чем не даровая сила на субботниках-воскресниках?

**В тоже время, не все сотрудники райисполкома сосредоточили внимание на проблемах экономики района: у начальника идеологии района Н.Бискуп, например, забота о церкви на первом месте – её очень беспокоят слабые темпы сбора пожертвований на восстановление Спасо-Вознесенского храма в агрогородке Мазолово. К слову, в прошлом году в районе освящен источник в честь Тупичевской иконы Божьей Матери и это одно из событий, на которое обратили внимание руководители района в предновогоднем поздравлении жителей района.**

Может, внимание к проблемам религии и позволит местному руководству найти ключик к ларцу, в котором заперто благосостояние жителей? А то халайда какая-то получается – экономикой серьезно местное начальство не занимается, кадровая политика никудышная, а будущее района зависит от стечения обстоятельств объективного характера – погодно-климатических условий и наличия в областном бюджете свободных денег. Для решения проблем Мстиславского района.



***Пётр МИГУРСКИЙ.***

# ХОТИМСК: *и куда же бедному мужику податься?*

Люди в нашей стране всё время пребывают в стрессовом состоянии. Это уже не политика, а сложившаяся практика. Не успеет закончиться одна кампания, как начинается другая, ещё более жёсткая. И система воздействия на человеческую психику и сознание имеет определённый, а если сказать точнее, для власти ошеломляющий успех. Нас всё время, вопреки всем устоявшимся международным нормам права и морали, хотят загнать в какие-то надуманные резервации, сделать нас безвольными овцами, управляемыми пастухом. Всё это я говорю к тому, чтобы на своём личном примере показать, как действует этот механизм подавления воли и инициативы.

Разработка новых мероприятий или нормативных документов, позволяющих власти дальнейшую дискриминацию человека в нашей стране стало нормой. Новый закон о тунеядстве вызвал бурное обсуждение в обществе на всех уровнях. Но давайте начнём с самого начала. Статистике верить нельзя, потому что она у нас «с двойным дном». Но нельзя не верить словам Президента. Статистика утверждает, что у нас 0,1% безработных, а президент, что 9%, или более 400 тысяч человек. Кому и зачем врём?

Наверное, сейчас и настал тот момент, чтобы сказать правду. Но болезнь излечить нельзя, не зная диагноза. Почему люди не идут на работу в наши местные организации и учреждения, фабрики и заводы? Да потому, что умеют читать и считать и знают положение дел по оплате своего труда в странах-соседках. А любой живой организм ищет что лучше. Поэтому большая часть людей, связанных и не связанных какими бы то ни было обязательствами перед обществом и семьёй, едет на заработки в другие страны. Это общемировая практика. Например, украинцы едут на работу в Чехию и Италию, а итальянцы едут на заработки в Канаду. И так далее. Весь мир так живёт. Люди зарабатывают деньги, валюту везут домой, содержат свои семьи, оплачивают все услуги, строят жильё. Но не платят налоги стране, где проживают. Не все из них работают по системе «чёрного нала». Ведь во всём мире уход от уплаты налогов является одним из самых тяжких преступлений. И иностранный работодатель не стремится использовать эту схему.

Второй аспект проблемы для нашей страны – это приграничная торговля: Польша, Литва. По неофициальным данным, в нашей стране более 80 тысяч человек занимается челночным бизнесом. Начиная от банального топлива, заканчивая транзитом наркотиков. Всё это есть. Так что, власть не видела эту тенденцию 20 лет? Очень странно! Ведь каждый человек, пересекающий границу, заносится в электронную базу данных, периодичность и количество поездок фиксируется. Но почему сегодня это стало проблемой? Но ларец открывается просто: люди находят возможность таким образом зарабатывать деньги, содержать свои семьи.




Ещё одной из важных проблем для будущего нашей страны является вопрос работающих пенсионеров. Опять же, та же статистика говорит, что у нас более 525 тысяч пенсионеров, которые продолжают работать. Причём большинство из них получают пенсию госслужащего. Откуда силы, откуда такая прыть? Создаётся впечатление, что во время зарабатывания стажа они отдыхали. Да и теперь никого из них не увидишь с вилами и лопатой - все под галстуками и в белых рубашках.

Я делал анализ по Хотимскому району. И для себя сделал вывод: доярки, животноводы, механизаторы, за редким исключением, не всегда могут использовать свою заработанную пенсию. Они попросту недолго задерживаются на этой земле. Район маленький, а пенсионеров в управлении и руководстве с каждым годом становится всё больше и больше, и получается, что один с сошкой, и уже не семеро, а более десяти человек с ложкой. Кто сможет удовлетворить эти всё более возрастающие потребности? А попросту некому! Для энергичной и продвинутой молодёжи нет работы. И в большинстве случаев руководители-пенсионеры не дают молодёжи место под солнцем.

Сегодня необходимо упорядочить систему пенсионного обеспечения. Работаешь – получай или пенсию, или зарплату. Поверьте, более половины работающих пенсионеров сразу же освободят места для молодых и перспективных кадров. Таких живых примеров у нас в районе много.

И последнее. Я уже много писал о том, какой у меня за плечами огромный стаж и опыт хозяйственной деятельности. Но в течение двух последних лет я не могу трудоустроиться в районе. За это время я уже трижды был на приёме у уже бывшего председателя райисполкома Ф.П. Вишневского. В последний раз он сказал: «Ищите сами, мы работу не даём.» Пришлось дважды об-

ращаться к нашему депутату Палаты представителей Национального собрания Беларуси, ныне председателю Гродненского облисполкома В.В.Кравцову. Он при мне дал поручение председателю райисполкома не издеваться надо мной, а трудоустроить. Где там! Ведь председатель райисполкома – некоронованный удельный князь. И ему никто не указ. Обращался я и к нашему сенатору В.Ф.Пинчуку. Он также более получаса наедине беседовал с Ф.П.Вишневским, и, выйдя от него, сказал мне, что вопрос будет решён. Но не тут-то было! Теперь мне осталось обратиться только к Президенту страны, - видимо, только он может решить этот вопрос.

Но таких, как я, более полумиллиона. И всех нас трудоустроить ему физически не по силам. Надо создавать другие законы: не по борьбе с тунеядством, а по трудоустройству. Но пока на местах будут управлять назначенные «удельные князьки», народ будет бежать из своей страны. Это уже положение на краю пропасти. Осталось сделать один шаг, чтобы оказаться на дне...

Я не стал отражать в своей статье более мелкие, но также тоже достаточно веские аргументы. Думаю, что читатели откликнутся и выскажут своё мнение. Но одно могу сказать с уверенностью: принимая подобные законы, не продумав и не просчитав их, накаляя и без того напряжённую обстановку в обществе, руководство страны всё больше и больше отдаляется от народа. Не всегда понимая, чем это чревато.

Моё мнение: такие вопросы надо выносить на общественное обсуждение, и только проанализировав ответы и ситуацию, принимать адекватные решения - не против, а в пользу работающего человека.



*Валерий КОРОНКЕВИЧ.*

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**На плошчы Славы ў Магілёве магілёўскай мытні ўручылі яе сцяг. Начальнік мытні Леанід Досаў пра значнасць падзеі ґаварыў на беларускай мове. Уручаў сцяг старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Юры Сянько. Паводле яго, мытныя органы сталі сістэмай забеспячэння нацыянальнай бяспекі краіны. Атрымаўшы сцяг, Леанід Досаў адзначыў, што сцяг — сімвал гонару, доблесці ды славы. *«Мець свой сцяг — гэта вялікі гонар, але разам з тым і вялікая адказнасць,* — казаў начальнік Магілёўскай мытні. — *Тым больш на палотнішчы нашага сцяга вышытыя словы: „За намі радзіма“. І гэта сапраўды так незалежна ад таго, дзе мы працуем — на поўначы ці поўдні, на захадзе ці на ўсходзе нашай краіны».***

**На Магілёўшчыне кіраўнікі сілавых структур звычайна не выказваюцца публічна на беларускай мове. На афіцыйных сайтах гэтых структур беларускамоўнай версіі няма. Напрыклад, на сайце Магілёўскай мытні беларускай мовы няма наогул. А вось на сайце Упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама па-беларуску пададзены кліч міліцыянераў: «Служым закону! Народу! Айчыне!».**

**Як зазначае намеснік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў, беларуская мова з вуснаў Леаніда Досава гучыць натуральна. Гэта сведчыць, кажа партыец, што моваю мытнік валодае неблага. «Я мяркую, што ў некаторых прадстаўнікоў сілавых структур нарэшце зявілася ўсведамленне таго, што існуе пагроза незалежнасці нашай краіны. Тут ёсць і асабісты інтарэс. Калі ўявіць, што цалкам знікае мяжа паміж Беларуссю і Расеяй — Беларусь уваходзіць абласцямі ў склад Расейскай Фэдэрацыі, і магілёўская мытня будзе нікому не патрэбная. І гэты чыноўнік застанецца без працы разам з астатнімі сваімі калегамі. Таму праз усведамленне гэтага прыходзіць разуменне, што Беларусь павінна існаваць як незалежная краіна».**

**Паводле Рыгора Кастусёва, большыня чыноўнікаў не валодае беларускай мовай настолькі, каб на ёй гаварыць. Тым не менш Кастусёў упэўнены, што калі будзе загад, то сітуацыя радыкальна змяеніцца. Партыец спасылаецца на гутарку з адным дзяржаўным службоўцам: *«Ён асабіста сказаў мне: калі будзе загад, я перайду на беларускую мову на заўтрашні дзень, а працэнтаў дзевяноста праз тры дні загавораць па-беларуску».***

**У бюджэт Магілёўскай вобласці па выніках 2014 г. паступіла Br 9.644,6 млрд. падаткаў і непадатковых плацяжоў, з іх у мясцовы бюджэт - Br 8. 350,0 млрд., У рэспубліканскі - Br 1. 294.6 млрд. У параўнанні з мінулым годам даходы бюджэту павялічыліся на 17,3%, Больш за 20% агульных паступленняў у кансалідаваны бюджэт вобласці сфармавалі 10 прадпрыемстваў: ЗЗАТ «Бровары Хайнэкен» (4,9% у агульных паступленнях па вобласці), ААТ «Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод» (4,9%), РУП «Магілёўэнерга» (4,2%), ААТ «Магілёўхімвалакно» (2,4%), РУП «Магілёўаблгаз» (1,1%), РДУП «Беларуснафта-Магілёўаблнафтапрадукт» (1,1%), Магілёўскі філіял РУП " Белтэлекам" (1,1%), ЗАТ «Завод палімерных труб» (1,0%), Філіял ТАА «Еўрагандаль» у г. Магілёве (0,8%), ААТ «Беларускі цэментны завод» (0,8%). Дадзенымі прадпрыемствамі пералічана ў бюджэт Br 2. 159,0 млрд.**

**Адзін з найбуйнейшых падатковых пастаўшчыкоў вобласці - Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод, - верагодна, увойдзе ў склад новага рэспубліканскага холдынгу вытворцаў лікёра-гарэлачнай прадукцыі. Зараз з кіраўніцтвам канцэрна «Белдзяржхарчпрам» абмяркоўваюцца пытанні ўваходжання прад-прыемства ў гэтую структуру. Галаўным ў новым холдынгу стане ААТ «Мінск Крышталь». Адна з асноўных мэт стварэння гэтай структуры - ўзаемадзеянне вытворцаў лікёра-гарэлачных вырабаў у прасоўванні сваёй прадукцыі на рэспубліканскім і міжнародным рынках.**

**Індэкс цэн (тарыфаў) на жыллёва-камунальныя паслугі ў снежні 2014 г. склаў 133,7% да снежня 2013 г.. Больш за ўсё падаражэла газа - і электразабеспячэнне - на 44,2% і 34,5% адпаведна. Найменшы рост цэнаў быў на водазабеспячэнне - на 27,1%.**

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# Погляды ў кожнага свае - хто з якой вышыні глядзіць

*“Вот так и живём, и ждём тишины…”* З песні.

Неяк сустракаю знаёмую настаўніцу. Даўно не бачыліся. Пытае, як справы, жыццё.

— Ну што “толковать” аб маіх пенсійных справах! - адказваю, як заўжды, каротка ды каб зразумела было, - справы мае “в борьбе и тревоге”.

— А што, мы плохо живем? Мы хорошо живем! – нібыта запэўнівае, нібыта супакойвае мяне мая суразмоўца.

— Тутацькі як паглядзець,- адказваю я. Калі блізарукім паглядам уставіцца ў экран тэлескрыні, то іншага, безумоўна, і не ўбачыш. Усё будзе глядзецца ў каляровых фарбах ды ў вялізных формах. Таму, безумоўна, будзе ўяўляцца, што ў нас усё добра і ладна. А калі зірнуць крыху за далягляд ды яшчэ зняць розавыя акуляры, якія на вочы нашага электарата насунула дзяржаўная хлуслівая прапаганда, то можна ўбачыць нешта іншае. Мяне асабіста, - працягваю я нашу размову, - турбуе дэмаграфічнае становішча ў нашай краіне: у вёсках стаяць хаты без вакон і дзвярэй. А ў большасці сваёй дык і ўвогуле – адны падмуркі засталіся (!). Школы апусцелі. Турбуе мяне і становішча ў медыцыні, бо толькі ў Менску не хапае каля 900 урачоў і 2,4 тысячы медсясцёр. А што ўжо казаць пра Чэрыкаў? Для прыкладу: раней у нашым раёне стала працавалі чатыры хірургі, а зараз - толькі два! І то адзін з іх - малады спецыяліст, які адпрацуе свой тэрмін і скажа: “Гуд бай, Чэрыкаў!”. Ды ці толькі ў спецыялістах зараз у нас праблемы??? І каго гэтыя праблемы турбуюць? Адказ відавочны?!... За апошнія 20 год на Магілёўшчыне зачынілі кожную другую сельскую установу адукацыі. З першага верасня гэтага году ў вобласці плануецца зачыніць яшчэ 18 вучэбных устаноў, у тым ліку 5 вучэбна-вытворчых камбінатаў. Пад аптымізацыю трапілі школы, дзе колькасць вучняў менш за 25. Мяркую, што настаўніцы вядомыя гэтыя факты! Але яны чамусьці яе зусім не турбуюць! А назіраючы сучасную сітуацыю ў нашай краіне, якая намёртва прывязана да Расеі, нельга выключыць магчымасці таго, што праблемы будуць толькі нарастаць… Турбуе мяне яшчэ знявага нашай роднай мовы, культуры, сімволікі. Тое, што людзей прымушаюць займацца не сваімі функцыянальнымі абавязкамі. Мяне не астаўляе раўнадушным становішча, пры якім людзі не могуць знайсці сабе працу, нацыя співаецца, дэградзіруе. Не можа мяне не турбаваць і той факт, што па ўсіх важнейшых паказчыках якасці жыцця – ахова здароўя, узровень эканамічнай злачыннасці, зарплаты - мы адстаем ад еўрапейскіх краін. Якія тутацькі яшчэ патрэбны доказы?!




Час прыспешваў, ды маналог весці больш не было жадання…

На наступны дзень сустракаю (калі дома не сядзець, то можна шмат каго сустрэць) Сяргея. Жыве ён недалёка ад мяне, па вуліцы Калініна, але бачымся даволі рэдка: мо раз на год. З Сяргеям мы знаёмыя даўно: ён займаўся раней у нашым авіямадэльным гуртку. Зараз працуе ў Менску дальнабойшчыкам. Тут бывае ўрыўкамі, таму сустрэчы бываюць не вельмі частыя. І зноў-такі загаманілі аб жыцці (аб чым зараз яшчэ можна размаўляць, асабліва з чалавекам, з якім доўгі час не бачыліся!).

— Як жыццё бяжыць? – задаю традыцыйнае пытанне.

— Ды вось так і бяжыць… амаль увесь час ў дарозе за “баранкай”. Зараз іду да бацькі. Тамацькі як скажу пра жытуху, адразу пачынаецца: “Во, ЁН вам дае, што вам дрэнна жывецца?”. А я кажу свайму тату, - працягвае Сяргей, - што мне не трэба, каб ЁН мне даваў. Я хачу зарабляць сам і атрымліваць **заробленае!** Ты гадаваў нас пяцярых, - стараецца ўнушыць мне Сярога доказы, якія ён выкладвае свайму тату, - і грошы хапала, каб нас гадаваць. А я аднаго не магу выхаваць, калі тутацькі за два мільёны сядзець!...

Вось такія атрымаліся ў мяне дыялогі з двумя суразмоўцамі. Розная ў іх адукацыя, сусім не аднолькавая прафесія, супрацьлеглыя погляды. У каго тутацькі погляд правільны, няхай мяркуе сам чытач. А вось чаму ў маіх суразмоўцаў розныя меркаванні, пытанне іншае. Мо Сяргей сядзіць у крэсле кіроўца сваёй фуры вышэй, чым стул настаўніка, а таму яму бачна далей? А мо таму, што ён шмат дзе бывае, і ёсць магчымасць штосці з нечым параўнаць?! А мо прычына зусім у іншым? Мо нашы настаўнікі вельмі зашораныя? І колькі ў нас людзей з такімі поглядамі, як у гэтай настаўніцы ды ў таты Сяргея? Шмат!!! Зомбіскрыня нясе сваю агідную прапаганду вельмі якасна і спраўна!

І тутацькі можна смела рабіць выснову: Аляксандру Рыгоравічу можна не напружвацца наконт прэзідэнцкіх выбараў, якія маюць адбыцца 15 лістапада 2015 гогда.

**І гэта называецца “Живём хорошо?”**

***Сямён ПАНІЗОЎЦАЎ.***

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 4.02.2015 г. у 10.00.